№ 3. Вільня, Нядзеля, 24 Студзеня 1926 г. Год II.

# Сялянская Ніва

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Завальная вул. 7. — (Wilno, ulica Zawalna 7).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.
Газэта выходзіць раз у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.
Перамена адрэсу 30 гр.

Цана абвестак:
на 1 старонцы 30 грошаў, на 2 і 3 — 25 грошаў і на 4 — 20 грошаў за радок дробнага друку ў ваднэй палосцы.
Жадаючыя іншых абвестак, павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.

## Асадніцтва ўзноў пачынаецца.

Як ведаем, устава аб асадніцтве і парцэляцыі Польскім Соймам прынята яшчэ прад Новым годам. Сяньня ўжо маем загад выканаўчы да гэтай уставы, прыняты Радай Міністраў 9.I. 1926 г. і надрукаваны ў „Dzienniku Ustaw“ № 2, 1926 г. У гэтым выканаўчым загадзе вызначаны тыя абшары зямлі, якія маюць быць прымусова адкуплены пад парцэляцыю ў 1926 г., а так-жа паіменна названы тыя маёнткі і абшарнікі, ад якіх на ўспомненую мэту землі будуць забраны.

Абазначым тут лік зямлі пад парцэляцыю на нашых землях.

На абшарах Акружнога Земскага Ураду *Беластоцкага* будзе ўзята зямлі ў паветах:

| | |
|---|---|
| a) Аўгустоўскім | 360 га. |
| b) Беластоцкім | 990 „ |
| c) Бельскім | 600 „ |
| d) Сакольскім | 175 „ |
| і e) Сувальскім | 170 „ |
| Усяго | 2.295 га. |

На абшарах Акружнога Земскага Ураду *Гарадзенскага* ў паветах:

| | |
|---|---|
| a) Баранавіцкім | 475 га. |
| b) Гарадзенскім | 170 „ |
| c) Лідскім | 960 „ |
| d) Нясьвежскім | 900 „ |
| e) Слонімскім | 100 „ |
| f) Ваўкавыскім | 1.500 „ |
| і g) Валожынскім | 230 „ |
| Усяго | 4.335 га. |

На абшарах Акружнога Земскага Ураду *Берасьцейскага* ў паветах:

| | |
|---|---|
| a) Берасьцейскім | 200 га. |
| b) Драгічынскім | 1.000 „ |
| c) Кобрынскім | 340 „ |
| d) Лунінецкім | 240 „ |
| і e) Пінскім | 570 „ |
| Усяго | 2.350 га. |

На абшарах Акружнога Земскага Ураду *Віленскага* ў паветах:

| | |
|---|---|
| a) Віленскім | 350 га. |
| b) Ашмянскім | 250 „ |
| c) Сьвянцянскім | 900 „ |
| d) Дзісьненскім | 830 „ |
| e) Пастаўскім | 200 „ |
| f) Вялейскім | 985 „ |
| g) Маладэчанскім | 495 „ |
| і h) Браслаўскім | 390 „ |
| Усяго | 4.400 га. |

Калі ўсе гэтыя лічбы зложым, дык атрымаем 13.420 га, якія падлягаюць сёлета парцэляцыі на землях беларускіх і адчасьці літоўскіх.

Ня знаючы дакладна тэрыторыі ўкраінскай, украінскіх паветаў тут ня вылічаем. Аднак, бяручы пад увагу, што ўкраінскія землі ў Польшчы (разам з Галічынай) большія за беларускія і літоўскія разам бадай у разы два, мы можам быць пэўны, што ўкраінскія землі дадуць пад парцэляцыю ў сёлетнім годзе да 20.000 га, што разам з беларускай і літоўскай зямлёй дасьць якіх да 30.000 га. А трэба ведаць, што згодна з уставай аб парцэляцыі і згодна з загадам выканаўчым у сёлетнім годзе ўсей зямлі ў Польшчы мусіць быць распарцэлявана 50.000 га. Такім чынам бачым, што ўвесь цяжар парцэляцыі кладзецца на нашы землі (беларускія, украінскія, літоўскія), бо якіх 60 прац. падлягаючай парцэляцыі зямлі будзе ўзята з нашых зямель.

Пры справядлівай рэформе рольнай з гэтага належыла-б толькі цешыцца. Але ведаючы, *хто*, паводле гэнай уставы мае права прадусім атрымаць зямлю, мы пэўны, што мясцовы беззямельны і малазямельны парцэлярванай зямлі бадай не атрымае нічога. Галоўная мэта ўставы —польскае асадніцтва на нашых землях.

Тут яшчэ раз пацьвярджаецца тая праўда, што ніхто нашаму селяніну ня дасьць шчасьця, а што свой лёс трэба браць у свае рукі. Якбы інакш выглядала гэта „рэформа“ рольная, калі-б беларусы, літоўцы і ўкраінцы ўсе, як адзін муж, падчас выбараў у Сойм, аддалі свае галасы толькі на *сваіх* паслоў!

Дык бярэма-ж свой лёс у свае рукі. Усе беларускія сяляне, а такжа ўсе беларускія беззямельныя і малазямельныя гарніцеся пад сьцяг свайго „Беларускага Сялянскага Саюзу“, каб супольнымі сіламі здабыць сабе зямлю і ў палон чужынцу ня дацца!...

## З газэт.

У № 2 „Bieł. Krynica“ зьмясьціла цікавую стацьцю, пад загалоўкам: „Dwa kamunizmy“. Дзеля таго, што стацьця гэта выражае правільны пагляд на камунізм у нашым краі, — зьмяшчаем яе цалiком:

„Прачытаўшы гэты загаловак, можа адразу хто падумае, што тут нейкая недарэчнасьць. Бо ўсякі добра ведае, што на сьвеце ёсьць адзін камунізм так, як ёсьць адна камуністычная партыя.

Аднак я скажу, што ўсюды па сьвеце істнуе, праўду кажучы, адзін камунізм, але ў нашым беларускім і літоўскім краі на няшчасьце ёсьць два: соцыяльны і палітычны.

Сацыяльны камунізм—гэта ёсьць той праверны камуністычны кірунак, які ідзе да таго, каб завесьці супольнасьць фабрычнай і зямельнай прадукцыі (вытворчасьці), а так-сама і супольнасьць падзелу гэтых прадуктаў (фабрычных і сялянскіх), створаных супольнымі сіламі. Гэты сацыяльны камунізм цяпер на практыцы прабуюць уводзіць камуністы ў Расеі і гэтым імкнуцца да новага сацыяльнага ладу.

Ізноў жа палітычны камунізм—гэта ёсьць кірунак палітычнай мысьлі тых людзей, якія незадаволены з палітычнага палажэньня пад Польшчай і якія хацелі-б нейкай „перамены“ гэтага цяжкога палажэньня. Ня бачачы магчымасьці ў нутры Польшчы: у ўкладзе яе палітычных сіл і самі так-сама ня маючы такіх сіл, некаторыя беларускія дзеячы, а нават часта сам народ усю сваю надзею на вызваленьне пакладаюць на тую камуністычную сілу, якая ідзе з усходу.

Гэта арыентацыя на СССР і будзе тым палітычным камунізмам, аб каторым мы ўспомнілі. А цяпер пытаньне: які з гэтых двух камунізмаў у нас мацнейшы?

На гэтае пытаньне адказ, здаецца, будзе лёгкі: у нас мацнейшы камунізм палітычны. Як прыхільнікаў сацыяльнага камунізму ў нас мала, так прыхільнікаў палітычнага даволі многа.

Якія прычыны такога дзіўнага падзелу?

А вось якія. Трэба ведаць, што камунізм сяцыяльны—гэта чысты камунізм, ідучы да таго, каб у грамадзянстве завесьці поўную камуністычн. праграму. Значыць, сацыяльны камунізм стаіць за камунізацыяй усяго грамадзкага жыцьця, імкнецца да дыктатуры пралетарыяту, або лепш кажучы: да дыктатуры камуністычнай партыі, адкідаючы ўсякую думку аб дэмакратызме — словам, ідзець да зьдзейсьненьня ўсіх камуністычных ідэалаў. На гэтакі камунізм чыста сацыяльны ў нас ахвотнікаў, асабліва пасярод сялян, бадай сусім няма.

Але саўсім ня тое з камунізмам палітычным. Як мы ўжо казалі, гэты камунізм мае шмат прыхільнікаў, А мае прыхільнікаў затым, што людзі спадзяюцца палёгкі не ад каго другога, як толькі з усходу — ад бальшавікоў. Панска-буржуазная ўлада так уелася ў косьці нашым сялянам, асабліва праваслаўным, што яны чакаюць збаўленьня ад палітычнай перамены, якую можа прынесьці на сваіх штыках расейскі камунізм.

Вось гэтая панска-буржуазная ўлада, злучаная з паліцэйскім уціскам беларусаў і будзе той прычынай вялікага пашырэньня палітычнага камунізму ў нашай старане.

Праўда, гэты камунізм абапёрты толькі на нэгатыўных прычынах, але-ж усякі ведае, што нэгатыўныя прычыны заўсёды маюць большае значэньне пасярод народных мас, чым пазытыўныя. Народ не ўглядаецца, што будзе далей, ён глядзіць на бліжэйшае і шукае для сябе палёгкі.

Вот гэтае шуканьне выхаду з таго труднага палажэньня, у якім апынуўся наш селянін і ненавісьць да польска-буржуазнай улады і будзе той прычынай палітычнага камунізму. І чым больш будзе паліцэйскі уціск і зьдзек польскай адміністрацыі, тым болей будзе развівацца ў беларускіх масах арыентацыя — на палітычны камунізм“.

## Гаспадарчы аддзел.

### Земляробскі крызіс.

(Працяг).

Вышэй было ўжо падкрэсьлена, што цэны на збожа маюць міжнародны характар. Характар гэты зьяўляецца вынікам міжнароднай канкурэнцыі. Міжнародныя цэны на збожа кшталтуюцца на аснове права падачы і запатрэбаваньня, прытым найчасьцей цэны ўстанаўліваюцца паводле найтанейшых коштаў вытворчасьці.

Усім ёсьць добра вядомы 1878 год, калі Эўропа перажывала крызіс земляробства. У гэтым годзе Амэрыка, дзякуючы экстэнсыўнай гаспадарцы на мала патрабуючых накладаў грунтах, прыслала ў Эўропу сваё збожа, якое аказалася танейшым ад эўропэйскага збожа.

Цана на збожа панізілася, што выклікала земляробскі крызіс, бо ня было рахунку вырабляць сваё збожа, калі Амэрыка прысылала танейшае. Каб весьці барацьбу з Амэрыканскім танным збожам, некатарыя дзяржавы, як Нямеччына і Францыя ўводзяць мытную абарону.

Як відзім, пры ўстанаўленьні цэнаў вольная канкурэнцыя на збожавым рынку адыгрывае пераважную ролю, бо земляробскія прадуцэнты не дайшлі яшчэ да міжнародных саюзаў-сындыкатаў (трэсты і картэлі), якія-б пачалі адпаведнай палітыкай рэгуляваць цэны.

У гэтай галіне прадуцэнты прамысловай вытворчасьці пайшлі далей. У некаторых галінах прамысловай вытворчасьці ўжо маем чуць не абсалютны манаполь (напрыклад: газа, сярнічкі і інш). Сусім зразумелая рэч, што вытворчасьць зарганізаваная ў саюзы прадуцэнтаў скарэй патрапіць утрымаць цэны сваей вытворчасьці на пэўнай пажаданай роўні.

Пасьля вышэйпаданага агляду, выясьняючага зьніжэньне сусьветных цэнаў на земляробскія тавары ў паваенным часе адносна да цэнаў прамысловых тавараў, пяройдзем цяпер да гэтага самага пытаньня ў граніцах Польшчы. Апрача ўжо ўспомненых дзейнікаў (прычын), якія датычаць наагул сусьветных цэнаў земляробскай вытворчасьці, тут выступаюць яшчэ іншыя, якія яшчэ ў большай меры аслабляюць закупную сілу земляробаў. Дарагоўля капіталу ў Польшчы даходзе да ніколі ня бывалых нормаў, уласьнікі капіталаў атрымліваюць вельмі высокія працэнты. Культура польскага прадпрыемцы ў галіне вытворчасьці так далёка ззаду стаіць за зяходня-эўропэйскімі прадпрыемцамі, што яго заработкі, выражаныя ў працэнтах на абаротны капітал і кошты самой арганізацыі вытворчасьці ў вялікай меры перавышаюць адпаведныя кошты эўропэйскай вытворчасьці. Тое самае можна сказаць аб самой тэхніцы вытворчасьці, прадукцыйнасьці працы польскага работніка і вялікім працэнце безработных.

Далей, калі возьмем сам гандаль збожам, то тут таксама выступае зьявішча дарагоўлі пасрэдніцтва. Калі сам гандаль збожам вымагае вялікіх коштаў і хоча адначасна мець адпаведныя заработкі, то гэта некарысна мусіць адбівацца на цане, па якой гаспадар мусіць прадаваць збожа, бо заграніччны купец польскага збожа не павысе цану на збожа толькі дзеля таго, што польскі экспартэр палажыў вялікія кошты і хоча шмат зарабіць.

Урэшце, як прычына ўсіх прычын, а прынамсі пераважную ролю адыйгрываючая прычына паніжэньня цэнаў земляробскіх прадуктаў—спадку закупной здольнасьці земляробаў, выступае палітыка ўраду. Негаворачы ўжо аб самой сыстэме дзяржаўных і самаўрадавых падаткаў, якой мала абдуманая рацыянальная пляновасьць вядома ўсім, негаворачы ўжо аб цераз-мерным дзяржаўным буджэце выдаткаў, якія ўплываюць на паніжэньне закупной здольнасьці земляробаў, выступае тут яшчэ палітыка т. наз. абароны „кансумэнта". Пад гэтым „кансумэнтам" трэба разумець гарадскую люднасьць: ураднікаў і рабочых фабрычных. Хаця гэтай палітыцы, якую вёў папярэдні ўрад прамысловыя кругі надаюць іншае значэньне, чым мы, бо яны бачаць ў гэтай палітыцы толькі недахват абароны краёвай прамысловасьці і пасыўнасьць гандлёвага балянсу, аднак мусім сьцьвердзіць, што гэтая палітыка абароны „кансумэнта" была таксама шкоднай для земляробства. Пад гэтай палітыкай „кансумэнта" разумеем не палітыку зьніжэньня цэнаў прамысловых тавараў першай патрэбы, як: абутак, адзетак і інш., на якія былі застасаваны мытныя палёгкі, а палітыку сьвядома ўплываючую на паніжэньне цэнаў прадуктаў земляробства. Тым горш цяпер гэта палітыка адбіваецца на земляробстве, бо ўрад ужо падняў мыта на прамысловыя тавары першай патрэбы, а нічога не зрабіў, каб паправіць інтарэсы земляробства.

Якімі матывамі кіравалася і кіруецца такая палітыка? Бярэцца тут пад увагу прадусім кошты ўтрыманьня і курс польскай валюты. Пэнсіі ўраднікам і заработная плата работнікам аблічаецца на аснове т. наз. паказьніка гуртовых цэнаў, які выводзіцца што-месяц. Для вылічэньня скарочанага паказьніка бярэцца за аснову цэны 57 розных артыкулаў, сярод якіх пераважную роль адыгрываюць прадукты земляробства. Чым вышэйшыя будуць цэны, тым большыя пэнсыі трэба плаціць ураднікам. Рэч ясная, што ўрад імкнецца да таго, каб выплачываць меншыя пэнсыі чыноўнікам, а затым палітыка ўраду кіруецца да абніжэньня, або да недапусканьня да ўзросту цэнаў на земляробскія тавары.

Другім матывам урадавым гаспадарчай палітыкі нізкіх цэнаў на земляробскія прадукты зьяўляецца імкненьне ўраду да ўтрыманьня на сталай роўні курсу польскага злотага. Як вядома, злоты польскі хаця лічыцца банкнотам, але фактычна не выменіваецца цяпер банкам на золата, а затым яго курс не трымаецца сьцісла вартасьці золата і падкладных заграніччных валют, але залежыць ад іншых прычын, як гаспадарчага стану краю, рэальнасьці дзяржаўнага буджэту, экспартовых здольнасьцяў краю, платнага балянсу, цэнаў экспартовых тавараў, палітычных абставінаў, сьведамасьці грамадзян аб іх правох, даверыя да эмісыйнай інстытуцыі і інш. Чым вышэйшыя будуць цэны на экспартовыя тавары, тым лягчэй можа спасьці валюта.

Апрача таго з нізкімі цэнамі сваіх земляробскіх прадуктаў лягчэй можна канкураваць на замежных рынках, можна больш павялічыць вывазны контынгэнт і такім чынам павышаць актыўнасьць гандлёвага балянсу, што таксама падтрымлівае курс папяровай валюты.

Як відзім, польская гаспадарчая палітыка сусім не заінтэрасавана паправай земляробскай вытворчасьці.

Ды маем яшчэ іншае зьявішча, якое яшчэ больш пагаршае земляробскі прадукт; ім зьяўляецца прамысловы протэкцыонізм. Каб не дапускаць да краю чужаземных прамысловых тавараў, каб стварыць лепшыя абставіны (ўмовы) для краёвай прамысловасьці, урад увёў высокія мытныя стаўкі на замежныя прамысловыя тавары, іншымі славамі, пачаў апекавацца прамысловай вытворчасьцяй. Высокія мытныя (прогібіцыйныя) стаўкі і забарона прывозу некатарых тавараў шмат паднялі ў гору цэны прамысловых тавараў у параўнаньні з заграніцай.

Дзякуючы вышэй паданым абставінам, стварыліся некарысныя ўмовы для земляробскіх тавараў, якія апынуліся ў далёка горшых умовах ад тавараў прамысловых. З прычыны вялікай розніцы цэнаў між прамысловымі таварамі і земляробскімі вясковая люднасьць утраціла сваю сілу закупную, а затым прамысловы прадукт пазбавіўся краёвых консумэнтаў.

І так, з аднэй стараны маем земляробскі крызіс, дзякуючы нізкім цэнам на земляробскія тавары, з другой — крызіс прамысловы, дзякуючы высокім цэнам на прамыславыя таввры і малой закупной здольнасьці вясковай люднасьці.

Адным словам, паўстае зачараванае кола, з якога трудна выйсьці.

Вялікія земляробскія прадуцэнты знаходзяць на гэта лекі ў павышэньні цэнаў на земляробскія тавары дарогай устанаўленьня мытнай абароны на земляробскую вытворчасьць. Як толькі цэны на зямельныя прадукты пойдуць у гару, падыміцца закупная здольнасьць вёскі, пачне яна больш спажываць прамысловых тавараў, а ў зьвязку з гэтым прамысловая вытворчасьць кране з мейсца і аджыве гаспадарчае жыцьцё. Праціўнікі гэтай думкі ўзноў кажуць, што ад высокіх цэнаў на збожа падымуцца кошты ўтрыманьня работнікаў, прамысловая вытворчасьць яшчэ больш падаражэе, а затым гаспадар сусім не павялічыць сваей закупной здольнасьці.

Фактычна выхадам з гэтага палажэньня можа быць толькі павялічэньне агульнай сумы прамысловай вытворчасьці, а такжа абніжэньне коштаў гэтай вытворчасьці. Трэба, каб цэны прамысловых тавараў так многа спалі, каб земляробы маглі гэтыя тавары купляць за цану сваей вытворчасьці. Тады кансумцыя (спажыцьцё) прамысловых прадуктаў павялічыцца, павялічыцца закупная здольнасьць гаспадара. Наагул, усялякая вытворчасьць толькі тады мае рацыю да расшырэньня свайго поля працы, калі будзе расшырацца кансумцыя, калі прапарцыянальна да яго ўзросту будзе павялічывацца грамадзкі даход—даход грамадзкіх масаў, у нашым выпадку (у Польшчы)—даход сялянскіх масаў.

(Канец).

**А. Більдзюкевіч.**

* * *

Ой нядолячку
Каваль мне накаваў.
Горам, мукамі
Быццам сталь ўгартаваў.

Не ламаецца
Мак, хоць вецер гне.
Не заплачу-ж я,
Хоць пакінуў мяне.

Сэрца вылечыць
Варажбой не магу,
Толькі думкай аб ім
Разганяю тугу.

Ты калiначка
Не раўнуйся са мной: —
Зімой мучышся,
А я кожнай парой.

Хлопцы чэпяцца
Злоснай, гордай завуць...
Дзе-ж мой мілы, дзе —
Ня відаць і ня чуць.

Сьцежка цьвёрдая
Укрывайся травой,
Пад вянцом з руты
Не стаяць маладой.

**Алёна.**

# Беларусы заграніцай.

## Беларуская калёнія ў Празе-чэшскай.

Нашая тут калёнія, каля 120 чалавек, складаецца блізу што выключна з студэнтаў вышэйшых чэшскіх школ.

З пачатку ўся беларуская студэнская сямья была досыць дружна і аднадумна, у паглядах на нацыянальна-дзяржаўнае адраджэньне беларускага народу.

Дбаючы аб нацыянальнай справе і нацыянальным гонару свайго народу, нашыя студэнты закладалі нацыянальныя гурткі і арганізацыі, выдавалі час ад часу, журналы, чыталі даклады, арганізавалі нацыянальныя вечары і г. д., адным словам, усё ішло калі не надта добра, то далёка ня дрэнна.

Ва ўсіх было стараньне і надзея падрасьці ня ніжэй іншых нацыянальнасьцяў.

Але, але... з бегам часу падплываюць і ўліваюцца ў спакойную беларускую сямью палітыканы, шляхцюкі, гандляры і нават чужынцы, апранутыя ў беларускія пёры.

# Цярністы шлях беларускай школы у Польшчы.

Прапазыцыя паслоў Беларускага Клюбу ў справе прасьледаваньня праз польскі ўрад беларускага школьніцтва і нарушэньня праз гэта Трактату падпісанага ў Вэрсалі ў 1919 г. між Саюзнымі Дзяржавамі і Польшчай, а так-жа арт. VII Мірнага Дагавору між Польшчай і Расеяй, падпісанага ў Рызе 18-га сакавіка 1921 г.

I.

У зьвязку з паўстаньнем Польскае дзяржавы, Польшча забавязалася падпарадкаваць сваё дзяржаўнае будаўніцтва да прынцыпаў вольнасьці і справядлівасьці, а такжа даць поўную гваранцыю свабоды ўсім жыхаром тэрыторый, якія да яе прылучаюцца.

Забавязаньні Польшчы адносна да нацыянальных меншасьцяў абняты міжнароднай умовай у Трактаце між Саюзнымі Дзяржавамі і Польшчай, падпісаным у Вэрсалі 28 чэрвеня 1919 г.

Арт. 8 гэтага Трактату гавора: „Польскія грамадзяне, належачыя да этнічных меншасьцяў, рэлігійных або языковых, будуць карыстацца з такога самага трактаваньня, з такіх самых уставовых гваранцыяў, як і іншыя польскія грамадзяне. Гэта знача,—будуць мець роўныя правы да закладаньня, кіраваньня і кантраляваньня ўласным коштам інстытуцыяў дабрадзейных, рэлігійных, або грамадзкіх, школ і іншых узгадавальных установ, а так-жа права свабоднага ўжываньня ў іх уласнае мовы і свабоднага выкананьня сваей рэлігіі.

Арт. 9. У местах і акругах, заселеных праз значную частку грамадзянамі, ужываючымі іншую мову ад польскай, Польскі ўрад у справах публічнага навучаньня дасьць адпаведныя палёгкі, каб запэўніць у пачаткавых школах навучаньне дзяцей такіх грамадзян у іх ўласнай мове. Гэта не перашкодзе Ураду Польскаму завясьці ў гэтых школах навучаньне польскае мовы, як абавязковай.

У местах, заселеных праз значную частку польскіх грамадзян, належачых да меншасьцяў этнічных, рэлігійных, або языковых, меншасьцям гэтым будзе запэўнены справядлівы ўдзел у карыстаньні, а так-жа празначэньні сум, якія бюджэт дзяржаўны, гарадзкі, або іншы вызначае з грамадзкіх грошы на мэты ўзгадаваньня, рэлігійныя, або дабрадзейныя!...

Арт. 1 раздзелу I гавора:

„Польшч забавязуецца, што пастановы, зьмешчаныя ў арт. 2 да 8 гэтага раздзелу, будуць прызнаныя за права аснаўныя, што ніякая ўстава, ніякае распараджэньне, ніякая дзеяльнасьць ураду ня будзе мець супроць іх моцы.

Далей, 12 арт. таго-ж раздзелу:

„Польшч згаджаецца, каб пастановы папярэдніх артыкулаў, калі датычаць асоб, належачых да меншасьцяў расовых, рэлігійных, або языковых, былі абавязуючыя ў міжнародным значэньні і адданы пад гваранцыю Саюзу Народаў. Ня мугуць быць яны зьменены бяз згоды большасьці Рады Саюзу Народаў".

Апроч абавязкаў выплываючых з Вэрсальскага Трактату, Польшч падпісала забавязаньне адносна да народнасьці беларускай, украінскай і расейскай у Рыжскім Трактаце.

У арт. VII гэтага трактату знаходзім, што Польшч гварантуе асобам народнасьці беларускай, украінскай і расейскай усе правы, запэўняючыя свабоднае разьвіцьцё культуры, языка, а так-жа выпаўненьне рэлігійных абрадаў.

Канстытуцыя Рачыпаспалітай Польскай так-жа гварантуе правы грамадзянам непалякам.

Гэтак прадстаўляецца праўнае палажэньне нацыянальных меншасьцяў у Польшчы, фактычнае-ж палажэньне знаходзіцца ў абсалютнай супярэчнасьці з міжнароднымі трактатамі.

II.

Польскі ўрад усімі сіламі прыступіў да прасьледаваньня і нішчэньня беларускага школьніцтва і беларускае культуры. Палітыка ўраду напраўлена да спалянізаваньня земляў беларускіх і знаходзіцца ў поўнай супярэчнасьці з арт. 9 Вэрсальскага Трактату, бо беларускі народ ад вякоў засяляе сваё абшары і становіць там пераважаючую большасьць; працэнт беларускае люднасьці ў некатарых акругах даходзе да 90%. Агулам у Польшчы пасьля Рыжскага Трактату знаходзіцца каля $2^1/_2$ міл. беларускае люднасьці, засяляючай густой масай т. зв. „Kresy Wschodnie".

Люднасьць гэтая — пазбаўленая школы ў роднай мове, бо школьныя ўлады ня толькі не пазваля-

